



# Рэгіянальная газета

29 сакавіка 2013 года
№ 13 (934)

Тэлетыдзень 26

http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".




# З Вялікаднем!

## навіны рэгіёна

### Маладзечанскі Палац культуры стаў лепшым у вобласці

**МАЛАДЗЕЧНА.** Мінскі аблвыканкам прызнаў Палац культуры лепшым клубам Мінскай вобласці сярод клубных устаноў культуры. Лепшы клуб вызначалі па выніках штогадовага спаборніцтва на лепшую арганізацыю работы па развіцці культуры за 2012 год.

### Выйдзе картка да юбілею Касцяневіцкага касцёла

**ВІЛЕЙКА**. У пятніцу, 29 сакавіка, Міністэрства сувязі і інфарматызацыі выпускае ў абарачэнне картку з арыгінальнай маркай, прымеркаванай да 250-годдзя з часу пабудовы касцёла ў Касцяневічах. Тыраж складзе 60 тысяч экзэмпляраў. "Памятнае гашэнне спецыяльным штэмпелем пройдзе 2 красавіка ў аддзяленні паштовай сувязі "Вілейка-4", якое размешчанае ў будынку вузла паштовай сувязі", – расказаў намеснік начальніка Вілейскага раённага вузла паштовай сувязі **Ігар Скок**. – Гашэнне будзе праводзіцца на працягу працоўнага дня. Спецыяльнае памятнае гашэнне робіцца адмысловым мастацкім штэмпелем у строга абмежаваны час. Падчас гашэння на марку наносіцца адбітак штэмпеля. Пасля гэтага становіцца аб'ектам калекцыянавання для філатэлістаў, але можа выкарыстоўвацца як звычайнае паштовае адпраўленне.

### На мяжы – новыя пункты пропуску

**БЕЛАРУСЬ.** На мяжы з Літвой да 2015 года з'явяцца прапускныя пункты для аўтамабіляў. Пра гэта паведаміў намеснік старшыні Дзяржаўнага мытнага камітэта **Сяргей Радненка**, паведамляе сайт камітэта. Хутка мытня цалкам пяройдзе на механізаваную сістэму афармлення грузу. Гэта значыць, што вывезці тавар за мяжу можна будзе без удзелу супрацоўнікаў у форме. Дастаткова будзе перавозчыку падаць дэкларацыю ў Дзяржаўны мытны камітэт, а ўсё астатняе зробіць камп'ютарная сістэма.

**Аддзел інфармацыі.**

# Вясна прыйшла па прагнозе "РГ"



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

**Як і прагназаваў для "РГ" начальнік вілейскай гідраметэастанцыі Вячаслаў Лапко, на гэтым тыдні снег пачаў раставаць. На выхадных чакаецца лёгкі сняжок. Удзень тэмпература будзе плюсавая, ноччу ж — невялікі мароз. А вось пасля 5-8 красавіка вясна пачне грэць па-сапраўднаму. Тэмпература будзе ад +5 і вышэй. На здымку: на вуліцы Прытыцкага ў Маладзечне на гэтым тыдні.**

МЕРКАВАННЕ

# Цымбалы: узровень расце, попыт падае

**МАЛАДЗЕЧНА. У каледжы імя Міхала Клеафаса Агінскага 22-24 сакавіка адбыўся заключны тур VII адкрытага форуму цымбалістаў "Сярэбраны звон цымбалаў".**


Фота Настассі РОЎДА.

Аліна Алісіевіч, адна з сёлетніх пераможцаў цымбальнага форуму.

Я аддала гэтаму музычнаму інструменту сем гадоў свайго жыцця. Марыла пра кансерваторыю, сольную цымбальную будучыню, але ў пэўны момант усе мае задумы пайшлі прахам.

Цяпер вельмі рада, што так здарылася. Больш за тое, рада і мая былая настаўніца, якая ездзіла разам са мной на ўсе магчымыя цымбальныя конкурсы, у тым ліку і "Сярэбраны звон цымбалаў".

Справа ў тым, што паступова гэты музычны інструмент страчвае попыт. Знайсці працу настаўніцы музыкі, тым больш настаўніцы цымбалаў, даволі складана. Яшчэ складаней знайсці таленавітую моладзь, якую прыемна было б вучыць. А толькі так можна атрымліваць асалоду ад працы.

І вось ужо некалькі гадоў я не чула цымбалы. Аднак, патрапіўшы на агучванне сёлетніх вынікаў форуму цымбалістаў, была прыемна здзіўленая ўзроўнем цяперашніх выступоўцаў.

Па традыцыі, у апошні дзень форуму іграюць пераможцы. Іх не адзін і не два. Сёлета сярод сольных выканаўцаў вылучылі 16 пераможцаў, а сярод ансамблевых – дзесяць.

Мяне ўразіла, што, насамрэч, народная творчасць не стаіць на месцы. Час ідзе, і яна змяняе сваё аблічча.

Калі раней было няшмат тых, хто ледзь не танцаваў за інструментам, каб перадаць настрой музычнага твора, то цяпер такія ўсе. Да таго ж, я ўпершыню пабачыла, што на цымбалах можна іграць не толькі ў народным убранні ці ў чорна-белым касцюме ці блузе. На цымбалах можна іграць у вячэрняй сукенцы!

Можна не абмяжоўвацца музыкай, а ствараць ледзь не тэатральную пастаноўку са звычайным капялюшыкам.

Дарэчы, народны артыст Беларусі, старшыня асацыяцыі беларускіх цымбалістаў **Яўген Гладкоў** у сваёй прамове да ўдзельнікаў звярнуў увагу, што падзел на месцы – адносны.

– Увогуле, проста вельмі шмат цікавага. Калі б гэта была не музыка, а спорт, то розніца паміж першым месцам і другім, другім і трэцім, трэцім і проста дыпломам была б у дзясятыя долі секунды.

Мяне радуе, што сёння я бачу цікавасць да інструмента. Нават калі гэта цікавасць – проста жаданне атрымаць дыплом.

Галоўнае, каб было дзе паказаць сваю творчасць.

Галоўнае, што ёсць тыя, хто можа яе ацаніць.



**Настасся РОЎДА**
E-mail: nastya.rovdo@gmail.com
Skype: nastya_rovdo

ЯК ТАМ, У ТЭАТРЫ

## "Батлейка" ўпершыню арганізоўвае Міжнародны фестываль

**МАЛАДЗЕЧНА. Ён пройдзе з 7 па 10 красавіка ў Маладзечне. Удзельнічаюць у ім адразу тры краіны – Украіна, Малдова ды Расія.**

Ужо 23 гады, калі існуе тэатр, яго калектыў марыў правесці на падмостках сваёй сцэны міжнародны фестываль.

І вось цяпер упершыню тэатр лялек стаў натхняльнікам і арганізатарам Міжнароднай творчай акцыі "Тэатры свету – дзецям". Мы называем гэтую акцыю міжнародным міні-фэстам.

Свой удзел пацвердзілі адразу тры краіны: Украіна – Нікалаеўскі дзяржаўны тэатр лялек, Расія – Тульскі дзяржаўны тэатр лялек і Малдова – кішынёўскі муніцыпальны тэатр лялек "Гугуцэ".

У межах акцыі пройдуць і два дабрачынныя спектаклі для дзяцей Радашкавіцкай школы-інтэрната і Вілейскага сацыяльнага прытулку.

Тэатры з вялікім нецярпеннем чакаюць сустрэчы з беларускім гледачом, каб пазнаёміць са сваімі нацыянальнымі героямі і незвычайнымі казкамі. Кожны з акцёраў верыць, што менавіта яго спектакль запаліць яркія вясёлыя агеньчыкі ў вачах і душах кожнага дзіцяці.

Адразу пасля выступленняў у Маладзечне і Маладзечанскім раёне ўсе калектывы прадоўжаць акцыю ўжо ў Расіі ў горадзе Тула. А восенню тэатры зноў сустрэнуцца на гасціннай украінскай зямлі ў горадзе Нікалаеў.

**Таццяна ЧАЕЎСКАЯ,**
**актрыса і загадчыца літаратурнай часткі тэатра "Батлейка".**

ЗАХАПЛЕННІ

## Пяцікласнік малюе выключна машыны

**ВІЛЕЙКА. У гімназіі №1 "Логас" праходзіць выстава пяцікласніка Іллі Вансовіча. На ёй прадстаўленыя выключна выявы машын.**

– **Чаму толькі машыны малюеш?** – пытаюся ў юнага мастака.

– З дзяцінства такое захапленне: машыны пачаў маляваць у садку. Тата займаецца грузаперавозкамі, і гэта пачало прыцягваць.

– **Машыны цікавяць таму, што з бацькавай працай звязаны?**

– Не толькі. Падабаецца, як яны выглядаюць, што могуць перавозіць такія вялікія грузы.

Расказаў Ілля, што некаторыя малюнкі дапамагае ствараць фантазія, штосьці ў энцыклапедыях падглядае.

Выставу прапанаваў правесці **Эдуард Мацюшонак**, пад кіраўніцтвам якога Ілля займаецца ва ўзорнай студыі выяўленчага мастацтва "Вясёлка". Кажа юны мастак, што заняткі яму даюць многае.

– **Што, апроч машын, яшчэ любіш маляваць?**

– Практычна нічога – толькі машыны. Але нядаўна спрабаваў вітраж размаляваць – цікава!

– **Як дзеці адгукаюцца пра выставу?**

– Кажуць, што падабаецца. Цікавяцца, як так атрымліваецца.

Даспадобы захапленне хлопца і бацькам.

– Захапленне сына падтрымліваем, прыемна, што такая творчая жылка ў яго ёсць, – кажа бацька юнага мастака – **Дзмітрый**. – Я сам у дзяцінстве машынамі цікавіўся. І сыну гэта перадалося.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**


Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Ілля Вансовіч ля сваіх работ.

### Папраўка

У мінулым нумары "Рэгіянальнай газеты" дапушчаная недакладнасць у артыкуле "Нашу зямлячку, якая вынайшла станік, ушанують у Валожыне".

Як паведаміў Васіль Рубцоў, помнік у выглядзе ліхтара будзе ўстаноўлены ў Ракаве, недалёка ад творчай майстэрні "Ісьлач". Просім прабачэння ў чытачоў.

**Рэдакцыя "РГ".**

КОНКУРСЫ

## Спаборнічалі інтэлектуалы нашага рэгіёна

**МЯДЗЕЛ. За два дні ў райцэнтры адбыліся дзве інтэлектуальныя гульні. Удзельнічалі ў іх не толькі прадстаўнікі Мядзельшчыны, але і з іншых раёнаў.**

23 сакавіка прайшоў адкрыты чэмпіянат раёна па інтэлектуальных гульнях "Нарачанская хваля" сярод школьнікаў. Складаўся ён з гульняў "МедыяАзбука", "Што? Дзе? Калі?" і "Нарачанскі невад". Апошняя гульня – аўтарская распрацоўка кіраўніка клуба "Інтэлектуал" **Вячаслава Саўчыка**.

Прынялі ўдзел у інтэлектуальных спаборніцтвах 13 каманд. Восем з іх – з Мядзельшчыны, тры – з Астраўца, дзве – з Ашмянаў.

Чэмпіянат таксама складаўся з гульняў "МедыяАзбука", "Нарачанскі невад", "Што? Дзе? Калі?".

Перамагла каманда Нацыянальнага дзіцячага адукацыйна-аздараўленчага цэнтра "Зубраня". Другімі сталі госці – каманда "Гасіла" з Ашмянаў. А трэцімі – каманда "Матрыкс-V" аддзела адукацыі Мядзельскага райвыканкама.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

СВЯТА

## 1 красавіка жартуем, падманваем і лепім на спіны рыб

**МАЛАДЗЕЧНА. Пра першае красавіка – Дзень смеху, жартаў, вясёласці і падманаў – ведаюць не толькі ў Беларусі. У Францыі, праўда, гэты дзень называюць Днём "першакрасавіцкай рыбы".**

Настаўніца французскай мовы маладзечанскай гімназіі №3 **Кацярына Івашанка** некалі была ў Францыі і бачыла, што ў гэты дзень вырабляюць французы.

### 1 красавіка ў Францыі

У Францыі ў Дзень дурня лёгка можна стаць, як кажуць французы, "poisson d` avril", што значыць, "першакрасавіцкай рыбай".

Назва свята звязаная з тым, што 1 красавіка знаходзіцца ў сузор'і рыбы.

У гэты дзень на вуліцы вы можаце сустрэць чалавека з рыбінай на спіне. Вядома, не жывой, а зробленай з усяго, што трапляе пад руку, але ў французаў выклікае ўсмешку. Чалавек жа не падазрае, што за "груз" ён цягне на сваёй спіне!

### У Польшчы сёлета – "смігус-дынгус"

Студэнтка Варшаўскага ўніверсітэта маладзечанка **Вераніка Шыманоўская** расказала, што 1 красавіка палякі будуць паліваць адно аднаго вадой.

Сёлета ў Польшчы Дзень смеху прыпадае на другі дзень Вялікадня, калі палякі абліваюць адзін аднаго вадой. Гэты даўні жартоўны звычай называюць "смігусам-дынгусам".

Звычайна ж у Польшчы на гэты дзень не плануецца ніякіх важных спраў.

– У Польшчы ў мяне шмат сяброў з розных краін: Індыі, Балгарыі і Латвіі, – кажа Вераніка. – Свята 1 красавіка яны адзначаюць так, як і беларусы. У іх прынята жартаваць і падманваць адзін аднаго.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

РЫНАК

# Звычайная драбяза, якая спрашчае нам жыццё






Домік для ключоў.





Падстаўкі для парасонаў.

**Каб ключы, упрыгожванні, парасоны і нават лекі не губляліся, крамы прапануюць нам цэлы шэраг рэчаў, якія заўсёды дапамогуць нам мець усё неабходнае пад рукой. Паспрабуем адказаць на пытанне, што для чаго і колькі гэта будзе каштаваць?**

## Домік для ключоў

Часцей за ўсё ва ўласных кватэрах мы шукаем ключы. Вядома, каб вырашыць гэту праблему, можна ўбіць цвік у сцяну і прымусіць сваіх родных чапляць на яго ключы. Але пагадзіцеся: больш прыемна карыстацца цудоўнай рэччу, якая называецца ключніца. Прыгожая скрыначка, унутры якой прымацаваныя кручочкі для ключоў, стане сапраўдным упрыгожваннем вашай віталыні.

Каштуе ключніца ад 100 да 300 тысяч рублёў.

## Падстаўкі для парасонаў

Прыйшла вясна, а значыць хутка пачнецца сезон дажджоў і навальніц. А разам з гэтым паўстане пытанне, дзе захоўваць парасоны, каб яны заўсёды былі пад рукой? І, стоячы на прыпынку, прыкрываючы галаву цэлафанавым пакетам, не думаць пра тое, што зноў забыліся зняць парасон з антрэсоляў.

Рашэнне простае – набудзьце сабе падстаўку для парасонаў. Чыгунную ці з бамбуку, пластыкавую ці драўляную – варыянтаў шмат. Выбірайце на свой густ. Такая падстаўка займае мала месца, але іскрынку ў ваш інтэр'ер дабавіць.

Кошт такіх падставак ад 300 тысяч рублёў.

## Каб не заблыталіся пацеркі

Нашы паважаныя чытачкі, напэўна, сутыкаліся з такой праблемай. Раніцай, спяшаючыся на працу альбо на вучобу, ніяк не атрымоўваецца разблытаць нітку пацерак, якія пераплаліся ў маленькай скрыначцы ў адзін клубок. Альбо перабіраеш завушніцы, а патрэбная пара ўсё не знаходзіцца і не знаходзіцца. Што рабіць? Выбар за вамі: ці развесіць ваша багацце па ўсіх цвіках і ручках у пакоі, ці купіць цудоўную рэч – падстаўку для ўпрыгожванняў. Жаночыя сілуэты, коцікі, туфлікі, зайчыкі, дрэўцы, далонькі, нават бегемоты – асартымент падставак у крамах здзівіць нават самую пераборлівую прыгажуню.

Прыгажосць вам абыдзецца ў 50 – 400 тысяч рублёў.





Падстаўкі для ўпрыгожванняў.

## Падумаем пра здароўе

Наступная рэч, пра якую пойдзе гаворка, спатрэбіцца хутчэй за ўсё ў дарозе, чым дома. Гаворка пра таблетніцу. Што? Вы не чулі пра такую карысную рэч? А дарма! Калі доктар вам прапісаў лекі, якія трэба прыняць цягам дня, без таблетніцы не абысціся. У ёй нават дазатар ёсць для таго, каб адламаць палову таблеткі. Набыць таблетніцу можна ў любой аптэцы. Кошт яе прыкладна 20-30 тысяч рублёў. Але калі вы прыхільнік эксклюзіўных рэчаў, то сувенірныя крамы прапануюць сапраўдныя шэдэўры. Кошт ад 70 тысяч рублёў.



Таблетніца.

Вось такі невялічкі спіс ў нас атрымаўся. Але калі вам шкада грошай, можна заўсёды знайсці выйсце. Як? Змайстраваць карысную рэч сваімі рукамі. Напрыклад, замест спецыяльнай падстаўкі для ўпрыгожванняў, можна выкарыстоўваць звычайную металічную падстаўку для... кубкаў.

**А што робіце вы, каб спрасціць сабе жыццё і трымаць неабходныя рэчы пад рукой? Падзяліцеся, калі ласка, сваімі маленькімі сакрэтамі з "Рэгіянальнай газетай".**



Наталля ТУР.
E-mail: turenok_08 @mail.ru



Металічная падстаўка для кубкаў.

Фота Наталлі ТУР.

| Курсы валют НБ РБ | 21.03 | 28.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 8 600.00 | **8 660.00** |
| Еўра | 11 100.00 | **11 130.00** |
| Злоты | 2 667.58 | **2 659.42** |
| Літ | 3 212.79 | **3 219.57** |
| Расійскі рубель | 278.00 | **280.50** |
| Грыўня | 1 057.49 | **1 063.42** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 8580/8630 | **8620/8680** |
| Еўра | 11080/11200 | **11090 /11200** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 20.03 | 27.03 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 121100 | **120680** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 45850 | **45050** |
| **Свініна, лапатка**, 1кг | 50000 | **50000** |
| **Ялавічына, кумпяк**, 1 кг | 88000 | **80000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 26900 | **24500** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 23800 | **23500** |
| **Селядзец**, 1 кг | 20800 | **29800** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 85000 | **85000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 9300 | **9650** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 11000 | **9800** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 12200 | **11000** |
| **Алей** | 16500 | **15000** |
| **Маянэз**, 200 г | 4650 | **4500** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7790 | **7200** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 28000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 8900 | **11950** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 3500 | **3500** |
| **Капуста**, 1 кг | 4000 | **8700** (свежая) |
| **Морква**, 1 кг | 5000 | **5600** |
| **Буракі**, 1 кг | 4000 | **4000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 18500 | **19000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 14500 | **13000** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 13500 | **14500** |
| **Памідоры**, 1 кг | 23000 | **27000** |
| **Агуркі**, 1 кг | 16000 | **18900** |
| **Перац**, 1 кг | 38000 | **40000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 35000 | **33000** |
| **Бананы**, 1 кг | 12000 | **8000** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 7000 | **6500** |
| **Грушы**, 1 кг | 21000 | **19500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 10000 | **12000** |
| **Масла**, 1 кг | 70000 | **70000** |
| **Тварог**, 1 кг | 30000 | **40000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 17000 | **17000** |
| **Сала**, 1 кг | 58000 | **60000** |
| **Бульба**,1 кг | 2000 | **3000** |
| **Мёд**, 1 кг | 60000 | **60000** |

ВУЧЭННІ

# Затрымлівалі дыверсантаў і тушылі школу




Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Падчас знішчэння ачага хімічнага паражэння ля Мядзельскай СШ №1.



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Затрыманне "дыверсантаў".

**МЯДЗЕЛ. Спыненне дыверсантаў, замініраванне сельсавета, тушэнне пажару ў школе – усё гэта можна было ўбачыць 25 і 26 сакавіка на Мядзельшчыне.**

Усё было не па-сапраўднаму. Гэта праходзіла штабная трэніроўка з органамі ўпраўлення тэрытарыяльнай абароны. Падчас яе адпрацоўваліся пытанні ўзаемадзеяння сілавых структур са штабам раёна тэрытарыяльнай абароны і мясцовымі органамі ўлады. Напрыклад, можна было пабачыць, як на месце ля вёскі Сваткі затрымліваюць дыверсійна-разведвальную групу, у Сватках праводзяць эвакуацыю з "замініраванага" будынка сельвыканкама. Давялося эвакуіравацца і педкалектыву Мядзельскай СШ №1. Там адпрацоўвалі тушэнне пажару ў актавай зале і знішчэнне ачага хімічнага паражэння.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## Прыставіў да горла нож і забраў усе грошы

**АЛЁХНАВІЧЫ. У суботу, 23 сакавіка, жыхарка Алёхнавічаў, як звычайна, ішла на працу. Раптам яе дагнаў незнаёмы мужчына і прыставіў да горла нож.**

Жанчына падумала, што ён жартуе. Пачала яму казаць: "Ты што, жартуеш?"

Мужчына прыціснуў яе да сябе яшчэ мацней. Жанчына дакранулася да прадмета, які быў прыстаўлены да горла, і зразумела – гэта нож.

Яна надта спужалася, кінула сумку і ўцякла.

Мужчына дастаў з сумкі кашалёк і забраў адтуль ўсе грошы, пасля выкінуў яго разам з нажом.

Жанчына адразу звярнулася ў міліцыю. Праз некалькі гадзін 27-гадовы жыхар вёскі Гарадок быў знойдзены. Ён ужо пад вартай.

Пра гэта паведаміў следчы па асабліва важных справах Маладзечанскага аддзела Следчага камітэта **Марына Рагінская**.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

СЛУЖБА 101

## Пажарныя вyратавалі жанчыну і эвакуіравалі 20 чалавек

**МАЛАДЗЕЧНА. У суботу, 23 красавіка, а 11 гадзіне раніцы загарэўся пакой у дзевяціпавярховым інтэрнаце па вуліцы Францішка Скарыны.**

– Калі прыехалі выратавальнікі, на трэцім паверсе з акна пакоя ішоў чорны дым, – кажа інспектар прапаганды і навучання Маладзечанскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях **Марына Ермакова**.

Пажарныя выратавалі 34-гадовую жанчыну, якая нідзе не працуе і з'яўляецца інвалідам другой групы.

Брыгада "хуткай дапамогі" даставіла яе ў рэанімацыйнае аддзяленне Маладзечанскай ЦРБ з апёкамі цела і траўмамі. Цяпер стан пацярпелай здавальняючы.

Падчас пажару выратавальнікі эвакуіравалі 20 чалавек, якія ў гэты час знаходзіліся ў інтэрнаце на трэцім паверсе і вышэй.

Агонь у пакоі пашкодзіў шафу, тэлевізар, мікрахвалевую печ, а таксама закурыліся сцены.

Папярэдняя прычына пажару ўстанаўліваецца.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**



Фота 112.by.

Пажар у інтэрнаце па вуліцы Францішка Скарыны.

ПРАКУРАТУРА, СУД

## 63-гадовая жанчына на машыне збіла дзвюх дзяўчат. Адна з іх увесь час следства знаходзілася ў коме

**АСТРАВЕЦ. Аварыя адбылася з-за таго, што 63-гадовая жанчына папросту апусціла вочы на рычаг пераключэння перадач і не глядзела на дарогу.**

Вечарам 25 жніўня жанчына ехала на "Аўдзі-100" разам з мужам, які сядзеў побач, унукам і знаёмай па вуліцы Ленінскай у Астраўцы. Калі праязджала пераход каля крамы "Вернісаж", не заўважыла дзвюх дзяўчат.

Жанчына сцвярджала, што хуткасць яе была не больш за 40 км/г, аднак першая дзяўчына атрымала чэрапна-мазгавую траўму. Увесь час следства яна знаходзілася ў коме. Другой пашанцавала крыху больш, яе траўмы не такія цяжкія.

Пацярпелая расказала, што ў той вечар яны разам з сяброўкай выйшлі з крамы "Вернісаж" і накіраваліся да пешаходнага перахода. Машыны іх прапускалі, і яны не адчувалі ніякай небяспекі і не глядзелі навокал. На апошняй жа палосе дарогі іх раптам збіла машына.

Жанчына прызнала віну цалкам. Яна парушыла адразу шэсць правілаў дарожнага руху.

По прыгавору суда, жанчыне далі два гады і шэсць месяцаў абмежавання волі без накіравання ў выпраўленчую ўстанову адкрытага тыпу. Яе пазбавілі правоў на чатыры гады.

Першай пацярпелай суд прызначыў выплаціць 50 мільёнаў рублёў за маральную шкоду і 1 мільён 600 тысяч за юрыдычныя паслугі. Другой – 10 мільёнаў рублёў за маральную шкоду, амаль 200 тысяч матэрыяльнай кампенсацыі і 1 мільён 700 тысяч за юрыдычныя паслугі.

### Пракурор не пагадзіўся з прысудам

Ён палічыў прыгавор занадта мяккім і падаў касацыйную скаргу, дзе патрабаваў пазбавіць волі абвінавачаную на два гады і правоў на кіраванне машынай на пяць гадоў.

Суддзі касацыйнай інстанцыі пагадзіліся толькі з апошняй часткай скаргі і павялічылі тэрмін пазбаўлення правоў да пяці гадоў.

Паважаныя ўдзельнікі дарожнага руху, будзьце пільныя: глядзіце па баках, нават калі пераходзіце на зялёнае святло альбо па пешаходным пераходзе.

**Анастасія ЮРКОЙЦЬ, выканальніца абавязкаў памочніка пракурора Астравецкага раёна.**

ЗДАРЭННЕ

## Медсястру збіў МАЗ на пераходзе. Шукаюць сведкаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Здарэнне адбылося 21 сакавіка каля 16.11 на пераходзе з Прытыцкага на чыгуначны вакзал.**

52-гадовы кіроўца МАЗа ехаў па Лібава-Роменскай у бок пуцепрavода ў крайнім правым радзе. На перакрыжаванні Лібава-Роменскай і Прытыцкага наехаў на маладую жанчыну. Яна ішла па нерэгуляваным пешаходным пераходзе справа налева па ходу руху і трапіла пад правае задняе кола. Ад атрыманых траўмаў загінула.

Па факце здарэння ўзбуджаная крымінальная справа.

Пра гэта паведаміў дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі **Сяргей Бартош**.

Ад знаёмых маладой жанчыны вядома, што яна працавала медсястрой. Не так даўно выйшла замуж. У сям'і была адзінай дачкой.

Следчы камітэт шукае сведкаў аварыі. Калі вы можаце штосьці паведаміць, вас просяць патэлефанаваць па нумарах: **8(033) 669-32-48, 77-10-89,** ад 9 да 18 гадзін ад панядзелка да пятніцы следчаму **Максіму Дзмітрыевічу Буткевічу.**

**Аддзел інфармацыі.**

СЕЗОН

# Як выглядае вясенняе паляванне на птушак



Фота esparusa.com

По дадзеных "Аховы птушак Бацькаўшчыны" 1% ад усяго насельніцтва Беларусі займаецца паляваннем.

**Новы сезон палявання адкрываецца ў Беларусі ў сакавіку. Разам з ім стартуе і чарговы этап руху за яго забарону.**

Паляванне на глушцоў і цецерукоў сёлета дазволенае з 20 сакавіка да 30 красавіка, паведамляе Дзяржаўная інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

На такіх птушак, як белалобая гусь, гусь гуменнік, шэрая гусь і канадская казарка, паляванне дазваляецца з 9 сакавіка да 12 мая.

### "Паляванне - частка традыцый"

Ліцэнзіі на паляванне выдае Беларускае таварыства паляўнічых і рыбаловаў, а таксама мясцовыя лесапаляўнічыя гаспадаркі. Дазвол на суткі каштуе 50 тысяч рублёў, на цэлы сезон – 500 тысяч. Паляўнічы мусіць раз на год плаціць падатак у памеры 100 тысяч рублёў. Ліцэнзія не абмяжоўвае колькасць падстрэленых птушак.

– Паляванне на птушак распаўсюджанае на тэрыторыі ўсіх краін былога СССР, – кажа **Дзмітры Пахомаў**, начальнік Смаргонскай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. – У нейкім сэнсе гэта стала часткай нашай культуры і традыцый. Нелегальнае паляванне на птушак сустракаецца рэдка, бо сам працэс вельмі складаны: трэба не адну сотню кіламетраў праехаць, каб знайсці птушку, яе прыманіць. Паляваннем займаюцца сапраўдныя аматары. Яно нецікавае для браканьераў, бо на ім не заробіш вялікіх грошай.

У Смаргонскім раёне ахвотныя палявацць заўсёды знаходзяцца.

– Паляваннем займаюцца вельмі захопленыя людзі, – заўважае **Уладзімір Лях**, вядучы інжынер па паляўнічай гаспадарцы Смаргонскага лясгаса. – У нашым лясгасе мінулай вясной мы выдалі 48 ліцэнзій. Ва ўсім раёне іх было нашмат больш. Папулярнасць гэтага захаплення не памяншаецца.

### "Правы прыроды трэба паважаць"

Грамадская арганізацыя "Ахова птушак Бацькаўшчыны" сёлета зноў звяртаецца да грамадзян краіны з заклікам спыніць вясеннія паляванні.

– Вясна – час абуджэння жыцця, – звяртаецца да беларусаў дырэктар "Аховы птушак Бацькаўшчыны" **Віктар Фянчук**. – Мы хочам абудзіць і душы нашых людзей. Беларусь – цывілізаваная краіна, дзе мільёны беларусаў не прымаюць палявання на птушак у перыяд размнажэння. Прыйшоў час, каб паляўнічыя пачалі паважаць правы прыроды.

Спецыялісты арганізацыі сцвярджаюць, што паляванне вясной не толькі разбівае птушыныя пары, гатовыя для гнездавання. Да таго ж наяўнасць паляўнічых і гук стрэлаў ствараюць стрэсавую атмасферу для птушак. Як паказалі даследаванні ў ЗША і Канадзе, падчас дазволу на вясенняе паляванне яйкі адкладвае 32% самак ад папуляцыі белых гусей, падчас забароны – 67%.

Умовы вясенняга палявання ў суседніх краінах іншыя. У Расіі яго тэрмін скарочаны да 10-і дзён (у Беларусі – 40-60 дзён), у Польшчы і ва Украіне яно забароненае.

Паступовыя змены ў гэтым кірунку ёсць і ў Беларусі, зазначае Міністэрства прыроды. Калі летась забарона на вясенняе паляванне на птушак дзейнічала на 13-і паляўнічых угоддзях краіны, то сёлета – ужо на 16-і. Навукоўцы хочуць высветліць, ці сапраўды забарона на вясенняе паляванне дапаможа падтрымліваць колькасць птушак.

У Гродзенскай вобласці няма тэрыторый, на якіх будзе дзейнічаць забарона. У Мінскай такой назвалі толькі адну, у Барысаўскім раёне.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

## Два месяцы забараняецца лавіць рыбу

**МЯДЗЕЛ. Забарона на лоўлю рыбы ўводзіцца з 1 красавіка да 30 мая.**

Намеснік начальніка Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету **Валянцін Галубовіч** адказаў на пытанні карэспандэнта "РГ".

**– Штогод з 1 красавіка ўводзіцца забарона на лоўлю рыбы. Чаму?**

– Асноўныя віды прэснаводных рыб нерастуюць у асноўным вясной. Падчас адкладання ікры нават нязначны шум на нерасцілішчах можа прыпыніць гэты працэс. Таму і ўводзіцца забарона, якая стварае спрыяльныя ўмовы для развіцця ікры і росту малька.

У вясенні перыяд, згодна з Правіламі вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства, дазваляецца аматарскае рыбалоўства толькі адной вудай з адным кручком або адным спінінгам, аснашчаным штучнай прынадай, з адным адзінарным або двайным ці трайным кручком памерам не больш за №10 (па міжнароднай класіфікацыі №1) у светлы час сутак і толькі з берага.

З любых збудаванняў, размешчаных у вадзе, над воднай роўнядззю на адлегласці ад берага, у гэты перыяд рыбачыць забаронена. Акрамя таго, грамадзянам нельга выкарыстоўваць маламерныя судны і судны з падвеснымі рухавікамі.

**– Чаму шчупака нельга лавіць з 1 сакавіка?**

– Нераст шчупака пачынаецца раней.

**– Якія штрафы пагражаюць браканьерам у перыяд забароны?**

– Яны могуць быць прыцягнутыя да адміністрацыйнай або крымінальнай адказнасці. Выкарыстанне недазволеных прылад рыбалоўства або спосабаў лоўлі (ч. 1 арт. 15.35 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях) пагражае штрафам ад 10 да 50 базавых велічынь.

Таксама давядзецца пакрыць шкоду, прычыненую навакольнаму асяроддзю: яна вылічаецца ў трайным памеры па кожнай канфіскаванай або знішчанай дзікай жывёліне або відзе рыбы. Калі ж памер страты складае больш за 40 базавых велічынь, то надыходзіць крымінальная адказнасць.

**– На ваш погляд, ці больш браканьераў затрымліваюць падчас нерасту?**

– У 90-х гадах мінулага стагоддзя, калі яшчэ не было Нацыянальнага парку "Нарачанскі" з аддзелам аховы і штрафы былі невялікія, парушальнікі ў перыяд нерасту трапляліся часта. На возера лезлі ўсе, каму не лянота. А цяпер на Мядзельшчыне затрымліваюцца лічаныя асобы. Мяркую, гэта звязана з тым, што ўсе прыродаахоўныя органы працуюць ва ўзмоцненым рэжыме. І адказнасць за парушэнні ўзмацнілася, і народ становіцца больш свядомым.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МЯДЗЕЛЕ

## Ці ўдзельнічалі вы ў рыбалцы ці паляванні?



**Сяргей Баўтрамовіч, міліцыянер-кінолаг:**

– Захапляюся рыбалкай гадоў дванаццаць. Пераважна – зімовай, але і ў іншы час таксама рыбачу. Летам падабаецца лавіць рыбу на возеры Мядзел, зімой – на Нарачы, Мястры. Блізка, і трафеі добрыя можна выцягнуць. Мінулым летам трох шчупакоў па 6 кілаграмаў на возеры Мядзел удалося злавіць.



**Пётр Райчонак, ваенны пенсіянер:**

– Не ўдзельнічаю ні ў рыбалцы, ні ў паляванні. Я вельмі жывёл шкадую. Не магу ўявіць, як гэта – забіць звера. Лічу, што паляўнічыя не маюць маральнага права забіваць жывёл: яны іх не кормяць, не даглядаюць за імі.



**Кацярына Якубоўская, педагог-арганізатар:**

– Так. Вельмі люблю рыбалку, асабліва летам, на спінінг. Гэта такі азарт: вудачку закінеш – і чакаеш, калі зловіш вялікую рыбіну. А галоўнае – рыбалка вялікае задавальненне прыносіць.



**Андрэй Купрэвіч, супрацоўнік ДАІ:**

– Паляваннем не захапляюся. Можа, таму, што ў родзе паляўнічых не было. А рыбалку люблю. На ёй час праходзіць непрыкметна, адпачываеш. Старэйшы сын Ілля па маім прыкладзе таксама гэтай справай захапіўся: разам рыбачым.



**Алёна Дземяшкевіч, банкаўскі работнік:**

– Ніколі не ўдзельнічала ні ў рыбалцы, ні ў паляванні. Для рыбалкі неабходнае цярпенне, а мне трэба ўсё і адразу. А тут дзень можаш праседзець і ні з чым пайсці. А калі казаць пра паляванне – шкада жывёл страляць.



**Аляксей Фарына, вучань:**

– Рыбалкай захапляюся даўно – з пяці год. Кожныя выхадныя рыбачу. Гэта такі азарт!



**Юры Вашкінель, супрацоўнік райаддзела па надзвычайных сітуацыях:**

– Рыбалку люблю. За тое, што можна адпачыць на прыродзе. А калі і зловіш нешта, то ўдвайне прыемна. Але часу на гэта захапленне не хапае, асабліва зімой.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# АЛМИ

## СЕТЬ МАГАЗИНОВ

ГАСТРОНОМ УЛ. Ф. СКОРИНЫ, 28
УНИВЕРСАМ УЛ. ВЕЛИКИЙ ГОСТИНЕЦ, 136

- 1800, скидка 20% — Сырок глазированный жир.23% 40г РФ С печеньем и клюквой/С лесными ягодами
- 8300, скидка 15% — Молоко ультрапастеризованное Савушкин продукт жир.3.1% 1л РБ
- 9900, скидка 30% — Яйцо куриное Златко С-2 цветное 10шт РБ
- 35900, скидка 20% — Ветчина вареная рубленая Смак Люкс 1кг РБ
- 62900, скидка 20% — Продукт из свинины Ковалочек Слуцкий Фирменный к/в 1кг РБ
- 12900, скидка 15% — Пельмени Волковысские 450г РБ Северные Особые/Богатырские Новые
- 25500, скидка 25% — Салака подкопченная Двинская 1кг РБ
- 19900, скидка 20% — Минтай с/м б/г 1кг РФ
- 4250, скидка 20% — Майонез Щедро Премиум жир.72-80% 190г Украина Провансаль/Львовский
- только в универсаме: 8500, скидка 30% — Макаронные изделия Пастино 500г Германия Пенне/Фузилли/Спагетти
- только в универсаме: 4300, скидка 30% — Крупа пшено шлифованное Домашний выбор 700г РБ
- 3500, скидка 30% — Суп б/п Лидкон 70г РБ Перловый с мясом/Гороховый с мясом/Перловый с шампиньонами
- 8500, скидка 20% — Маслины/Оливки Реан с косточкой 300г Испания
- 3900, скидка 20% — Сухофрукты Царские 90г РБ Виноград/Абрикос
- 1500, скидка 15% — Арахис жареный с солью АЛМИ 30г РБ
- 4100, скидка 15% — Вода минеральная АЛМИ газированная лечебно-столовая 1.5л РБ
- 7500, скидка 30% — Сок Вис 1л Молдова Яблочный/Яблочно-вишневый
- 3550, скидка 20% — Сок Фруто Няня 0.2л РФ Груша/Морковь-свекла-огурец-капуста
- 12700, скидка 25% — Чай Тесс РФ Черный Эрл Грей 25*1.8г/Зеленый Лайм 25*1.5г
- только в универсаме: 15900, скидка 30% — Кофе растворимый Чорнае Зерне 100г РБ
- 8900, скидка 20% — Шоколад Рошен 100г Украина Экстрамолочный с сезамом/Экстрачерный с дробленым лесным орехом
- только в универсаме: 9900, скидка 20% — Конфеты Нуга Рошен Ваниль 200г Украина
- 5300, скидка 25% — Вафли Вереск 210г РФ В ассортименте
- 5550, скидка 20% — Крекер Визит 170г РФ Луковый/С сыром/С солью
- только в универсаме: 7150, скидка 40% — Фольга алюминиевая в рулоне Сарантис 10м*28см Польша
- только в универсаме: 7150, скидка 40% — Пакеты Фино для запекания 5шт Польша
- только в универсаме: 6500, скидка 40% — Бумага для выпечки Фино 6м*29см Польша
- только в универсаме: 2700, скидка 30% — Палочки для шашлыков Ян 50шт Польша
- только в универсаме: 22900, скидка 25% — Средство для мытья стекол Клин 500мл РФ Апельсин/Яблоко/Лимон
- 6700, скидка 25% — Зубная паста Силка Дент 130г Германия Семейная/Целебные травы/Отбеливающая
- 8900, скидка 25% — Мыло туалетное Шик 5*70г Украина Ромашка/Яблоко
- только в универсаме: 10900, скидка 20% — Туалетная бумага Снежная панда 4шт Украина
- 31900, скидка 30% — Кондиционер-концентрат для белья Е 2л РФ В ассортименте
- 12500, скидка 25% — Моющее средство Фэйри 500мл РФ Ромашка и витамин Е/Нежные руки/Лимон
- только в универсаме: 8900, скидка 20% — Освежитель воздуха Симфония 200мл РФ Зеленый чай/Липовый цвет/Карибский лимон/Морской бриз
- только в универсаме: 9500, скидка 25% — Прокладки Белла Перфекта 10+2шт Украина В ассортименте

товар, отмеченный данным ценником, реализуется в гастрономе: г. Молодечно, ул. Ф. Скорины и в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136

товар, отмеченный данным ценником, реализуется только в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136

ООО «Торгпин», Лиц.50000/26251 выд. Мингорисполкомом от 23.05.2012 по 20.06.2022, УНП 190679197.

**ЦЕНЫ ДЕЙСТВИТЕЛЬНЫ С 27 МАРТА ПО 9 АПРЕЛЯ 2013 ГОДА**

МАСТАЦТВА

# Выстава маладзечанкі Вольгі Бабурынай адкрылася ў Вільні

**ВІЛЬНЯ. Майстар выцінанкі ў віленскай гарадской Ратушы прадэманстравала выставу карцін у тэхніцы выцінанка, якая ўяўляе сабой ілюстрацыі да кожнага артыкула Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека.**

Адкрыццё прайшло ў панядзелак, 25 сакавіка.

Пры дапамозе паперы і нажнічак мастачка ілюстравала кожны з трыццаці артыкулаў Дэкларацыі. Упершыню выстава гэтых работ прайшла ў снежні ў Мінску.

У Вільні выцінанкі Вольгі Бабурынай выстаўляюцца ў межах тыдня беларускай культуры. Больш за 25 гадоў жыццё мастачка прысвяціла гэтаму віду мастацтва.

Спадарыня Вольга скончыла маладзечанскую мастацкую школу, а таксама каледж імя Агінскага па кірунку дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Мастачка – навучэнка аднаго з першых набораў на гэты кірунак. Яе настаўнікам была Вікторыя Чырвонцава. Пасля года навучання Вольга Бабурына пераехала ў Гродна, дзе прадоўжыла навучанне ва ўніверсітэце імя Янкі Купалы. Цяпер жыве і працуе ў Мінску.

– Выцінанка – традыцыйны беларускі від выстрыгання з паперы, які адметны сярод іншых, – заўважыла спадарыня Вольга падчас адкрыцця выставы. – Наша выцінанка адрозніваецца ад польскай і ўкраінскай: у яе ёсць свае асаблівыя прыкметы, свая стылізацыя.

Мастачка імкнецца папулярызаваць менавіта традыцыйную выцінанку, у якой для працы выкарыстоўваюцца толькі нажнічкі і папера. Ніякіх ножыкаў ці спецыяльных прабойнікаў.

– Новая выстава – гэта спроба аб'яднаць традыцыі і сучаснасць, – падкрэслівае мастачка. – Каб захаваць любое традыцыйнае мастацтва, яго трэба прыстасоўваць пад сённяшні дзень. Пры дапамозе Дэкларацыі я паспрабавала надаць выцінанцы больш сучасныя формы. Шчыра кажучы, на пачатку працы цяжка было ўявіць, ці магчыма ілюстраваць усе 30 артыкулаў.



Вольга Бабурына.

Спадарыня Вольга засталася задаволеная вынікам. Прызнаецца, што калі цяпер глядзіць на свае работы, то не хочацца нічога мяняць і выпраўляць.

У размове з карэспандэнтамі "РГ" мастачка падзялілася ўспамінамі пра свой родны горад.

– У Маладзечне я бываю досыць часта, – расказала спадарыня Вольга. – У мяне там жывуць маці і сястра. Разам са сваімі працамі была год таму, калі маёй настаўніцы Вікторыі Мікітаўне спаўнялася 75 гадоў. Тады ж у Маладзечне праходзіў рэгіянальны фестываль па выцінанцы. Давялося тады быць у журы конкурсу. Спадзяюся, што цягам наступнага года атрымаецца наладзіць выставу.



**Артыкул 27 Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека.**
**Кожны чалавек мае права свабодна ўдзельнічаць у культурным жыцці грамадства, цешыцца мастацтвам, удзельнічаць у навуковым прагрэсе і карыстацца яго дабротамі.**

**Аляксандра ПАРАХНЯ, Зоя ХРУЦКАЯ.**
**Фота аўтараў.**

УРАЧЫСТА

## На тыдні беларускай культуры ў Вільні гукалі вясну

**ВІЛЬНЯ. На афіцыйным адкрыцці тыдня пасля выступлення афіцыйных асоб прысутных прывітаў этнадуэт "Akana".**

Пры дапамозе традыцыйных беларускіх песень спявачкі запрашалі вясну гаспадарыць не толькі ў прыродзе, але і ў душах гасцей.

Імпрэза адбылася ў віленскай гарадской Ратушы.

З прывітальным словам да ўдзельнікаў урачыстасці звярнуліся мэр Вільні **Артурас Зуокас**, прадстаўнікі літоўскага парламента і грамадскасці.

Кожны з іх адзначыў важнасць абвяшчэння БНР 95 гадоў таму не толькі для Беларусі, але і для Літвы: краіна-суседка першая прызнала незалежнасць маладой дзяржавы. У той жа час у самой Літве адбываліся падобныя гістарычныя працэсы.

Сваю прамову Артурас Зуокас пачаў з прывітання па-беларуску, што вельмі спадабалася прысутным беларусам, якія падтрымалі яго апладысментамі.

Сярод прысутных было шмат беларускіх студэнтаў, якія вучацца ў Літве.

Этнагурт "Akana" прэзентаваў не толькі народныя песні, але і музычныя інструменты, элементы абрадаў.

**Аляксандра ПАРАХНЯ, Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Больш фота і відэа з тыдня беларускай культуры ў Вільні – на сайце**




## Дзякуй за падтрымку!

Выказваем падзяку дырэктару ЗАТ "Дыліс-Касметык" Эдмунду Шэміс, кіраўніцтву ААТ "Канфа" Сяргею Башкіраву і Уладзіміру Каржову, ІП Наталлі Грышкевіч-Шэмет, Таццяне Благавешчанскай за дапамогу і падтрымку мацярок, якія выхоўваюць дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі, у Міжнародны жаночы дзень.

Дзякуй вам за разуменне і неабыякавасць.

**Кіраўнік клуба "Мы разам", псіхолаг Маладзечанскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва Алена Камісарук.**

ТАЙСКІ БОКС

# “Форму на чэмпіянат свету мы шылі самі”

**МАЛАДЗЕЧНА. Чацвёра маладзечанцаў – Вадзім Роліч, Юлія Загорская, Юльян Мурадзян, Кацярына Масніцкая – прывезлі чатыры медалі з чэмпіянату свету па тайскім боксе сярод юніёраў, які праходзіў у Стамбуле ( Турцыя) з 11 па 17 сакавіка.**





Фота забяспечана Наталляй ТУР.

Пераможца Вадзім Роліч разам з суддзёй і Юлія Загорская, уладальніца сярэбранага медаля.

Падчас размовы з прызёрамі высветлілася, што зламаны нос і выбітыя зубы – гэта ў парадку рэчаў, танец перад боем абавязковы ў тайскім боксе, а Стамбул хлопцам і дзяўчатам давялося пабачыць толькі праз вокны аўтобуса.

**– Гэта першы чэмпіянат такога ўзроўню ў вашым жыцці?**

– Юля: Так. Чэмпіянат свету першы.

**– Колькі краін прымала ўдзел у чэмпіянаце?**

– Юля: Сорак камандаў з сарака краін свету. З Беларусі было дванаццаць удзельнікаў. І прывезлі адзінаццаць медалёў! З Маладзечна былі чатыры чалавекі. І ўсе вярнуліся з медалямі. Вадзім Роліч заняў першае месца, я і Юльян – другое, Кацярына – трэцяе.

**– Як прымалі вас у Турцыі?**

– Каця: Доўга давялося чакаць рэгістрацыі, доўга чакалі нейкіх “важных” людзей. Цэлы дзень сядзелі галодныя, а так – класна. Праўда, жылі мы далёка ад цэнтра горада, таму Стамбул давялося ўбачыць толькі праз вокны аўтобуса.

– Юля: І ў моры нават не паплавалі. Увесь час ішлі дажджы.

**– Юля, вы сказалі, што ў вас з Юльянам другія месцы, у Кацярыны – трэцяе. Раскажыце пра гэта. Цяжка было?**

– Юля: Цяжка. Вельмі цяжка. Я білася з турчанкай, а яны вельмі моцныя сапернікі. Яна мяне яшчэ перад боем напалохала. Глядзіць такімі чорнымі вачыма. Да таго ж, мая саперніца была на галаву вышэйшая. Узяла мяне ў клінч (захоп, прыём у боксе). Ёй зручна было, яна ж вышэйшая. І з усёй моцы ўдарыла каленам ў печань. Так балела, як ніколі. Я не стрымалася, расплакалася пасля бою. Крыўдна.

– Каця: А мне палічылі два накдаўны ў другім раўндзе. І ўсё – трэцяе месца.

– Юльян (тлумачыць для мяне): накдаўн – гэта калі пасля ўдару пачынаеш “плыць”. Адчуванне, што страчваеш прытомнасць. А я прайграў па ачках. Мой сапернік, англічанін, зламаў мне нос.

**– Вы так лёгка пра гэта гаворыце. А ўвогуле траўмы часта бываюць?**

– Юля: Канешне. І пераломы, і сінякі. Як жа без гэтага. Гэта ж спорт. Бывае, што і пальцы на нагах ламаюць, зубы выбіваюць.

– Каця: Так. Бывае, як урэжуць з усёй моцы нагой у зубы праз капу… Дастаеш капу, а там зубы.

– Юля: Ага, класна… (усе смяюцца).

Дадам ад сябе: насупраць мяне сядзяць дзве прыгожыя дзяўчыны. Напэўна, у спартсменаў так прынята... Я сабе нават і ўявіць не магу, як такія мініяцюрныя дзяўчаты могуць так проста ўсміхацца, распавядаючы пра фізічны боль.

**– Можа, у вас ёсць нейкія асаблівыя абрады, прыкметы?**

– Юля: У нас на галаву ёсць павязкі, якія называюцца мангкон. Вось яны перад боем асвячаюцца ў царкве. І ў рукі іх нікому не дазваляецца браць. Перад боем танцуюць вайкру, танец такі. Танцуюць разам з сапернікам. А потым бой.

– Юльян: Усміхацца трэба. Заўсёды. Так лягчэй перамагчы, калі ты ўсміхаешся сапернiку ў твар. Паверце мне.

**– А хто прафінансаваў паездку?**

– Юля: Часткова бацькі, часткова спонсары, часткова дзяржава.

**– А калі агучыць суму. Колькі каштуе з’ездзіць на чэмпіянат свету?**

– Юльян: Прыкладна 1500 еўра на чалавека.

– Юля: Ну і так выдаткі розныя. Тудысюды. Мы за свае грошы шылі форму. Каб аднолькавая была.

**– Пытанне больш да дзяўчат. Чаму вы сярод шматлікіх відаў спорту выбралі менавіта бокс?**

– Кацярына: А чаму не? Вы думаеце, у гімнастыцы лягчэй?

– Юля: Я тры гады таму прыйшла, паглядзела. Мне спадабалася. І засталася.

**– Я чытала каментары ў інтэрнэце, сярод іх трапляюцца і такія: бедны муж будзе. Як вы ставіцеся да такога меркавання?**

– Юля: Усё гэта лухта. Мне ні разу не даводзілася ўжываць баявыя навыкі ў паўсядзённым жыцці.

**– А калі давядзецца?**

– Юля: Не ведаю, блага, напэўна, будзе таму, каму давядзецца ўмазаць. (Смяецца)

– Юльян: А мне даводзілася. Нічога.

– Каця: Ну, гэта ж глупства кулакамі вырашаць праблему. Іншая справа на рынгу.

**– Юльян, а як ты ставішся да дзяўчат-баксёрак?**

– Нармальна. У паўсядзённым жыцці – як да дзяўчат. На рынгу – як да таварышаў па камандзе.

**– А дзе вы займаецеся?**

– Юля: Клуб “Гладыятар”. Трэнеры вельмі добрыя, таму і вынік такі. Міхаіл Яўгенавіч Панцюхоў, Аляксандр Міхайлавіч Панцюхоў, Сяргей Міхайлавіч Панцюхоў вельмі падтрымліваюць. З імі ніколі не спрачаемся. Тут жалезнае правіла: трэнеру заўсёды лепей відаць.

**– А як бацькі рэагуюць?**

– Каця: Падтрымліваюць.

– Юля: Мама мая, дарэчы, думала, што гэта мой апошні чэмпіянат. Я да гэтага ніколі не прайгравала. Дваццаты бой гэта быў. І першы раз другое месца. Да гэтага толькі перамагала. Калі мне здымалі пальчаткі, думала: толькі б не заплакаць тут. Але наадварот з’явілася злосць: даказаць, што я ўсё ж такі мацнейшая.

**– Жыццё далейшае плануеце звязваць са спортам?**

– Юля: Канешне. Плануем паступаць у Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт фізічнай культуры. Дарэчы, там столькі ўжо чалавек з нашага клуба вучыцца, што хутка трэба будзе філіял універсітэта ў Маладзечне адкрываць.

**– Цяпер будзеце адпачываць?**

– Каця: Якое там! У нас спаборніцтвы ўжо на гэтым тыдні! Да наступнага чэмпіянату трэба рыхтавацца.

**– А калі ён будзе? І дзе?**

– Каця: Хутка. У канцы мая ў Бразіліі і Венгрыі.

– Юля: Некаму пашчасціць трапіць у Бразілію (глядзіць на Юльяна).

**– Чаму толькі Юльяну?**

– Юльян: А я ўваходжу ў зборную Беларусі. Таму ў мяне перспектыў больш.

**– Як да Бразіліі і да Венгрыі будзеце дабірацца?**

– Юля: Не ведаем. Чакаем падтрымкі спонсараў. Насамрэч, у Беларусі ў гэтым відзе спорту вялікая будучыня. Ужо цяпер на вось гэтым юніёрскім чэмпіянаце ў Турцыі Беларусь сябе паказала з самага найлепшага боку.

**Наталля ТУР.**

НАВІНЫ

## Дартс, тэніс і більярд

**МЯДЗЕЛ. У суботу, 23 студзеня, на базе фізкультурна-аздараўленчага цэнтра “Мядзел” прайшлі ажно тры асабова-камандныя чэмпіянаты раёна.**

У чэмпіянаце па настольным тэнісе сярод мужчын перамог **Арсень Чарнякевіч** з НДЦ “Зубраня”. Паміж жанчын першае месца заваявала **Яўгенія Комар** з Крывіцкага сельсавета. У камандным заліку першае месца на рахунку прадстаўнікоў Крывіцкага сельсавета, паведаміў галоўны спецыяліст аддзела па фізічнай культуры, спорце і турызме **Леанід Шыдлоўскі.**

**Аляксандр Лісіца** з прадпрыемства меліярацыйных сістэм перамог сярод мужчын у чэмпіянаце па дартсе. Сярод жанчын лепш кідала дроцікі ў цэль **Вольга Пацеюн** з санаторыя “Жураўка”. Каманднае першынство заваявалі медработнікі з Мядзельскай ЦРБ.

Упершыню за апошнія гады прайшоў чэмпіянат раёна па більярдзе. Перамог у ім **Аляксандр Гірвель** (ДРБУ-133). Такім чынам, каманда ДРБУ-133 стала пераможцай у камандным заліку.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Каманда Мядзела перамагла ў турніры па міні-футболе

**МЯДЗЕЛ. У нядзелю, 24 сакавіка, адбыўся турнір па міні-футболе. У ім удзельнічалі чатыры каманды: Вілейкі, Мядзела, “Меліяратар” (Астравец), ДРБУ-13 (Вілейка).**

– Каманды гулялі па кругавой сістэме, – расказаў дырэктар фізкультурна-аздараўленчага цэнтра “Мядзел” **Міхаіл Чаркасаў**. – У выніку тры з іх набралі аднолькавую колькасць ачкоў. Давялося лічыць розніцу мячоў.

Лепшай яны аказалася ў каманды Мядзела – яна і заняла першае месца. Другой стала каманда “Меліяратар” з Астраўца, трэцяй – ДРБУ-13 з Вілейкі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота забяспечана Міхаілам ЧАРКАСАВЫМ.

Момант гульні.

## У Вілейцы разыгралі Кубак па валейболе

**ВІЛЕЙКА. Гульні Кубка па валейболе на прызы таварыства “Завод Фламетр” прайшлі 22 і 23 сакавіка.**

У спаборніцтвах прынялі ўдзел 10 камандаў, паведаміў інструктар-метадыст раённага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра “Імпульс” **Аляксандр Вайда**.

З падгруп у паўфінал выйшлі чатыры каманды. У выніку Кубак заваявала каманда Вілейскай мэблевай фабрыкі, на другім месцы – гульцы Вілейскай міні-ЦЭЦ, на трэцім – супрацоўнікі райаддзела па надзвычайных сітуацыях.

Лепшым гульцом прызнаны **Артур Петрашэвіч** (Вілейская міні-ЦЭЦ). Спецыяльны прыз атрымала адзіная жанчына, якая гуляла на турніры, – **Аксана Альфер** (цэнтр “Надзея-XXI стагоддзе”)

– Гульцы і каманды выказваюць падзяку дырэктару ЗАТ “Завод Фламетр” **Паўлу Еленскаму** за арганізацыю спаборніцтваў і развіццё валейбола ў Вілейскім раёне, – кажа **Аляксандр Вайда**.

**Аддзел інфармацыі.**

■ ПАРАДЫ АД ДЫЗАЙНЕРА АДЗЕННЯ

# Касцюм у гардэробе жанчыны

**МАЛАДЗЕЧНА. У паўсядзённым жыцці мы пастаянна сутыкаемся з праблемай: шафа забітая, а насіць няма чаго.**

Выйсці з такой сітуацыі дапаможа маладзечанка, дызайнер адзення **Людміла Хрол.** Яна ж раскажа і пра шляхі раскрыцця індывідуальнасці.

– Сёння кожная жанчына і дзяўчына могуць насіць тое, што падыходзіць менавіта ёй, што адпавядае менавіта яе густу, – гаворыць Людміла. – Мода цяпер не дыктатар, хутчэй дарадца. А любой жанчыне дастаткова толькі ўзброіцца ўласным вынаходствам.

У нашай шафе вісіць нямала ўсяго, але кожны прадмет існуе як бы сам па сабе. І бывае, што вельмі складана спалучыць у сваім касцюме больш за дзве рэчы. Таму і напаўняюцца шафы, а гардэроб эксплуатуецца з найменшай эфектыўнасцю.

– Выйсце ёсць, – працягвае Людміла Хрол, – на прыкладзе аднаго са сваіх ансамбляў я пакажу, як можна, спалучаючы адзенне ў розных варыянтах, ператвараць сябе і свой касцюм у розныя вобразы і стылі.

Перш за ўсё, каб стварыць ансамбль у сваім гардэробе, трэба прадумаць для сябе колеравую гаму, якая блізкая вам і якая б не надакучвала. Псіхолагі, напрыклад, лічаць, што мы аддаём перавагу таму колеру, які адпавядае пары года, у якой нарадзіліся. Што яшчэ важна, і гэта класічны варыянт, – не спалучаць у сваім гардэробе больш за тры колеры.

Наступны этап – выберыце аснову для ансамбля. Цяпер вясна, і я для прыкладу ўзяла дэмісезоннае паліто з сакрэтам. Гэта такое паліто на два бакі, у ім выкарыстаныя два віды тканіны: клятчатая і аднатонная плашчовая. Кожная з іх выконвае сваю функцыю.

Шарсцяная дасць цяпло, а плашчоўка засцеражэ вас ад ветру і дажджу. Выкарыстоўвайце паліто то на адзін бок, то на другі, дапаўняйце яго рознымі аксесуарамі – шапачкамі, поясам, шалікамі, і вы атрымаеце зусім розныя варыянты дэмісезоннага верхняга адзення.

Цяпер пагаворым пра ніз – штаны ці спадніцу для гэтага ансамбля. Розная іх даўжыня таксама будуць мяняць ваш вобраз. Калі дапоўніць паўпаліто ў клетку шырокімі вельветавымі штанамі і камбінаванай кепкай, то атрымаецца вобраз маладой французжанкі 70-х гадоў мінулага стагоддзя. А калі вы надзенеце такое паліто на плашчовы бок, дапоўніце камбінаванай шапачкай-вушанкай, укарочанымі штанамі і клятчатым шалікам, то атрымаецца цёплы і ўтульны ансамбль для міжсезоння, у непагадзь ён проста незаменны.

Мы сёння так прызвычаіліся насіць штаны, што нават забываем пра жаночую сутнасць. Да гэтага ансамбля падыдзе і спадніча ці сарафан з плашчовай тканіны. Калі надзець разам з плашчовым варыянтам паліто, то адбудзецца ператварэнне паўпаліто ў паліто доўгага сілуэта, і з'явіцца зусім новы вобраз жанчыны, больш мяккі і лірычны.

Акрамя таго, добра было б дапоўніць гэты ансамбль маленькай камізэлькай з каўняром апаш і камбінаваным жакетам, якія можна насіць у розным спалучэннях са штанамі і сарафанам. А калі да ўсяго гэтага вы набудзеце парачку світараў і гольфаў адпаведнай гамы, то ваш вясенне-асенні гардэроб гатовы.

Фантазіруйце, паспрабуйце паглядзець на сябе збоку, і ў вас абавязкова ўсё атрымаецца.

Калі парады Людмілы Хрол вас зацікавілі, то бярыцеся за работу. А яшчэ праз газету ёй можна задаць пытанні адносна моды і адзення.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**


Фота з архіва Людмілы ХРОЛ.

Ансамбль адзення з паўпаліто ў клетку з вельветамі штанамі дэманструе Людміла Хрол.


Фота з архіва Людмілы ХРОЛ.

Гэты ж ансамбль толькі з камбінаваным жакетам, штанамі і кепачкай.


Фота з архіва Людмілы ХРОЛ.

Паўпаліто на другі бок, плашчовы, са штанамі ў клетку і шалікам.

**Даведка "РГ". Апаш** – гэта стаячы адкладны каўнер з шырокімі адкрытымі лацканамі, якія свабодна ляжаць на грудзях і плячах.

■ СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 7 | | | | | | 1 | |
| 2 | 1 | 9 | | | 3 | | | |
| | | | 7 | | 5 | 4 | | |
| 7 | 2 | 8 | 6 | | | | | |
| 9 | | | | 7 | | | | 5 |
| | | | | | 9 | 1 | 2 | 7 |
| | | 4 | 5 | | 2 | | | |
| | | | 1 | | | 2 | 3 | 9 |
| | 8 | | | | | | 5 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Прыгодніцкі экшн, фэнтэзі **"Джэк – заваёўнік веліканаў"** 3D (ЗША, 2013 год, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
29, 31 сакавіка – у 15.30, 21.00
30 сакавіка – у 21.00
1, 2 красавіка – у 18.30, 21.00
3, 4 красавіка – у 16.00, 18.30, 21.00
Кошт білета – 35 000 – дзённы, 40 000 – вячэрні сеанс.

Прэм'ера! Фэнтэзі **"Оз: Вялікі і магутны"** (у фармаце 3D, ЗША, 2013, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
29, 31 сакавіка – у 18.00
30 сакавіка – у 15.30
Кошт білета – 25 000 – дзённы, 30 000 – вячэрні сеанс.

Трылер **"Аперацыя "Арго"** (сёлетні ўладальнік прэміі "Оскар" у намінацыі "Лепшы фільм года", ЗША, 2012 год, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
30 сакавіка – у 18.30
Кошт білета – 30 000 рублёў

Камедыя **"Першаклашкі"** (Расія, 2012, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
30, 31 сакавіка – у 13.30
Кошт білета – 7 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Меладрама **"Тры метры над узроўнем неба: Я цябе жадаю"** (Іспанія, 2012)
29 сакавіка – 4 красавіка – у 19.00, 21.30
Кошт білета – 25 000 рублёў

Анімацыйная камедыя **"Гладыятары Рыма"** (Італія, 2012)
29-31 сакавіка – у 15.00, 17.00
1-4 красавіка – у 17.00
Кошт білета – 25 000 рублёў

Тэл. для даведак: **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**"Месье з рагамі, мадам з вусамі"** (дапаможнік для будучых раганосцаў у 2-х дзеях), *М.Мерыньe, А.Курбскі*
3 красавіка – у 19.00

**"Не такі, як усе"** (камедыя ) *Аляксей Слапоўскі*
5 красавіка – у 11.00

Тэатра мае права на замену спектакляў
Маладзечна, вуліца Чкалава, 7, тэл. для даведак: **76-17-32, 75-24-17.** E-mail: **modt@tyt.by.**

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**ПРЭМ'ЕРА. "ЧЫРВОНАЯ ШАПАЧКА"** (казка), *Я.Шварц.*
**31 нядзеля - у 12.00**

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.* Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

■ ГАРАСКОП (29 САКАВІКА – 4 КРАСАВІКА)


**Авен.** Перыяд падыходзіць для карэкцыі сваёй знешнасці, змены стылю адзення, прычоскі, для пачатку цыкла фізічных практыкаванняў.


**Цялец.** Будзьце акуратныя з тым, што ясце, бо могуць узнікнуць рэзкія болі ў страўніку і кішэчніку і выкліканыя яны будуць няякаснымі прадуктамі харчавання ці сапсаванымі стравамі. На вашым стале ўсё павінны быць выключна свежае.


**Блізняты.** Вас чакае перыяд абнаўлення. Вы адчуеце ўзмацненне энергетыкі, настрой будзе аптымістычны.


**Рак.** Паклапаціцеся пра здароўе сваіх вачэй. Вы падвяргаеце іх павышаным нагрузкам, а трэба ўжо даць адпачынак. Менш сядзіце за тэлевізарам ці камп'ютарам, вечарам прыкладзіце да векаў "маску" з агурка, бульбы ці спітай заваркі.


**Леў.** Калі вам захочацца новых уражанняў, то можна адправіцца ў якую-небудзь турыстычную паездку, толькі не сядзіце ўвесь час у сацыяльных сетках.


**Дзева.** У вас адчуецца прыліў сіл і бадзёрасці. У тых, хто знаходзіцца ў шлюбе, жыццё зайграе новымі яркімі фарбамі.


**Шалі.** Увасабляйце ў сваё жыццё нешта новае, не бойцеся спантаннасці і непрадказальнасці.


**Скарпіён.** Удзяліце асобую ўвагу прадстаўнікам старэйшага пакалення: цяпер ім вельмі важна адчуць вашу любоў.


**Стралец.** Для вас актуальным можа стаць пытанне пра сэнс жыцця, толькі не вельмі замыкайцеся ў сваім унутраным свеце.


**Казярог.** Калі вам захочацца абнавіць дамашнюю прастору, захочацца стварыць камфортную атмасферу для ўтульнага адпачынку, то дзейнічайце – вам гарыць зялёнае святло.


**Вадалей.** Цяпер вы некалькі абмежаваныя ў сродках, але гэта не азначае, што вам не трэба радаваць сябе. Абавязкова набудзьце што-небудзь прыемнае, яркае, смачнае, жаданае.


**Рыбы.** На гэтых днях звярніце ўвагу на адзенне ў клетку. Калі ў вас няма, то купіце, закажыце. Вось убачыце, вам будзе настолькі ўтульна адчуваць сябе ў такім адзенні, што і здымаць не захочацца.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

Камент-эксперт
erh.by
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

# Рэгіянальная газета

## НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -6 / -1 | | -5 / +3 | | +1 / +3 | | +1 / +3 | |
| | 744 | ↖ 8 | 735 | ↖ 7 | 734 | ↑ 2 | 725 | → 6 |
| Вільня | -7 / 0 | | -6 / +1 | | -2 / +3 | | -3 / +1 | |
| | 754 | ↖ 8 | 743 | ↑ 5 | 743 | ↗ 4 | 737 | ↘ 7 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, заход па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 6.48
Захад 19.45
Даўжыня дня 12.57

Усход 24.00
Захад 7.57
Квадра 3




## ПРЫКМЕТЫ

- 30 сакавіка – Аляксей, веснавы прысвятак, прымеркаваны да дня прападобнага Аляксея. "На Аляксея рыба аб лёд, санкі – аб плот" (хаваць да наступнай зімы).
- Красавік з вадой – май з травой.
- Красавік чорны ў полі, а ў бары – белы.

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Ці падабаецца вам, калі жанчына займаецца сілавым відам спорту?

**Людміла Яноўская, настаўніца фізічнай культуры:**

– Негатыўна стаўлюся, бо жанчына павінна быць жанчынай. Кулакамі ёй біцца не прывабна. Рынг – не для жанчыны.

**Артур Котаў, пенсіянер:**

– Бокс шкодны не толькі жанчынам, але і мужчынам. Я ўвогуле адмоўна стаўлюся да гэтага віду спорту. Навошта біць па галаве? Гэта не да дабра!

**Людміла Чарвінская, пенсіянерка:**

– Ну, напэўна, гэта карысна, бо прыбаўляецца сіла, растуць мускулы. Калі здароўе ды ўзрост дазваляюць займацца, дык чаму ж не? Тым больш, вельмі добра, што жанчына зможа сама сябе абараніць. Увогуле, было б добра, каб з'явіліся спецыяльныя курсы па самаабароне.

**Таццяна Мінчанкава, настаўніца:**

– Добра, калі гэта ў межах разумнага, лёгкае хобі. Але калі дзяўчына цалкам аддае сябе гэтаму віду спорту, то могуць з'явіцца праблемы са здароўем. Ды і як сябе потым з часам рэалізаваць у жыцці?

**Кацярына Кузняцова, аператар на пошце:**

– Добра стаўлюся. Мне падабаецца, калі жанчына можа сама сябе абараніць. І для фігуры гэта добра.

**Валянцін Чарапок, дырэктар філіяла:**

– Цалкам нармальна. Кожны вольны займацца тым, што яму падабаецца. Калі жанчыне падабаецца займацца сілавымі відамі спорту, то, калі ласка!

**Леанід Ляўковіч, механік:**

– Добра стаўлюся. Яна такім чынам развіваецца і паляпшае сваё здароўе. Ну і, напэўна, важны фактар, што яна сама сябе можа абараніць. Мяркую, што для дзяўчыны гэта няблага.

**Настасся РОЎДА, Зоя ХРУЦКАЯ.**

# Чытайце праз тыдзень:

- **Цяпер клімат такі, што без расады не абысціся. Расліны, вырашчаныя з расады, нашмат лепш развіваюцца. Расадны метад дазваляе яшчэ эканоміць і насенне, якое дорага каштуе. Як правільна займацца расадай, чытайце ў парадах гаспадару.**

## ГАВОРАЦЬ ДЗЕЦІ

Дзеці аглядаюць звярынец.
– Хто скажа, чаму ў льва такая вялікая галава?
– Каб з клеткі не вылез.

***

Двухгадовы Ваня ўпершыню ўбачыў навальніцу і крычыць:
– Бабуля, паглядзі, які салют.

***

– Мама, паехаў нябожчык, а за ім ідзе вялікая чарга.

***

– Мамачка, кладзіся на маю падушку, будзем разам мой сон глядзець.

***

– Як ты спаў? Што бачыў у сне?
– Хм. А хіба ў такой цемнаце што-небудзь убачыш.

***

– Мама, схадзі на базар, купі як мага больш грошай.



Рэгіянальная газета
Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 13 (935) 29.03.2013.
Друкарня ТДА "Знамение". Г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 259. Падпісана ў друк у 10.00 28.03.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.